


Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

24 студзеня 2020 года №4 (1291)

18+

# «Дапамагаць беспрацоўным не мае сэнсу»

Гэты рынак у Маладзечне квітнеў у канцы 90-х–пачатку 2000-х. Цяпер жа на пляцоўцы нешматлюдна. Каб бізнес прыносіў прыбытак, яго неабходна развіваць. Магчыма, тэхнапарк стане новым штуршком для эканомікі горада.

## Як збіраюцца развіваць бізнес у Маладзечне і для чаго цягам года запрацуе тэхнапарк

старонкі 2-3

Фота Настассі УТКІНАЙ.



## МЕСЯЦАВЫ КАЛЯНДАР САДАВОДА І АГАРОДНІКА на 2020 год

старонкі 12-13



Ураджэнка Смаргоні распавяла пра тое, як у канцы 1940-х арыштавалі школьнікаў і расстралялі Расціслава Лапіцкага

старонка 9

Пераможца ў намінацыі «Выбар чытачоў» акцыі «Асоба года-2019» – пра мару зрабіць карцінную галерэю ў двары

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адсканукце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Дапамагаць беспрацоўным не

## Як збіраюцца развіваць бізнес у Маладзечне і для чаго




Фота Настассі УТКІНАЙ.

Гэты рынак у Маладзечне квітнеў у канцы 90-х–пачатку 2000-х. Цяпер жа на пляцоўцы нешматлюдна. Каб бізнес прыносіў прыбытак, яго неабходна развіваць. Магчыма, новым штуршком для эканомікі горада стане тэхнапарк.

**Беларусы не ўмеюць працаваць, беспрацоўным не варта дапамагаць, а ў Маладзечне створаць інавацыйны бізнес. Што абмяркоўвалі на сустрэчы па развіцці прадпрымальніцтва ў Горадзе Сонца?**

МАЛАДЗЕЧНА

Сустрэча «Развіццё прадпрымальніцтва ў Маладзечанскім раёне праз правядзенне адукацыйных мерапрыемстваў» адбылася 17 студзеня. Арганізатарам круглага стала стаў адукацыйны цэнтр «Адкрытая прастора».

На сустрэчы прысутнічалі сузаснавальнік адукацыйнага цэнтра «Адкрытая прастора» **Валянціна Сідоркіна**, дырэктар установы **Валерыя Рошчына**, загадчык сектара рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання Маладзечанскага райвыканкама **Алена Кажэка**, дырэктар Цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва Маладзечанскага раёна і кіраўнік турагенцтва **Сяргей Алейнікаў**, дырэктар тэхнапарка «Інката» **Яўген Мальчэўскі** і прадпрымальнікі з Маладзечна.

### Чаму ўзнялі тэму бізнесу

Маладзечаншчына стала адным з раёнаў, дзе прайшоў конкурс ініцыятыў у межах праекта «Падтрымка эканамічнага развіцця на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь». Праект фінансуе Еўрапейскі саюз і Праграма развіцця ААН у супрацы з Міністэрствам эканомікі Беларусі.

**Праект «Тэхнапарк ІнКата-Мол» перамог у конкурсе ініцыятыў для Маладзечаншчыны. Яго будуць увасабляць таварыства «Інката» і Цэнтр моладзевых інавацый.**

Пра тое, як новы тэхнапарк будзе садзейнічаць развіццю прадпрымальніцтва і як увогуле развіваць бізнес у Маладзечне, абмеркавалі падчас круглага стала.

Прадстаўнік райвыканкама Алена Кажэка распавяла, як улада дапамагае пачаць бізнес пачынаючым прадпрымальнікам. У мінулым годзе выдалі 23 субсідыі для беспрацоўных. Іх памер ад 1 да 1,5 тысячы долараў у эквіваленце. Такой дапамогай скарысталіся раменснікі, пачаткоўцы ў галіне агратурызму.

### «Дапамагаць беспрацоўным не мае сэнсу»

Сяргей Алейнікаў распавёў, чым займаецца Цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва. Пераважна звяртаюцца па кансультацыі. Такіх зваротаў няшмат – некалькі на месяц. З яго ўражанняў наконт тых, хто звяртаецца, – трэба мець больш ведаў, каб пачынаць бізнес.

– Асабіста я лічу, што дапамагаць беспрацоўным не мае сэнсу, – пракаментаваў Алейнікаў інфармацыю пра субсідыі ад райвыканкама. – Тыя бізнесмены, якіх ведаю я, знаходзяць шляхі, як трапіць у бізнес, і ў любым выпадку трапляюць. Трэба быць такім чалавекам, прадпрымальным. Калі гэтага няма ў чалавеку, то ніякія субсідыі не дапамогуць. Тым больш, што такое для старту бізнесу тая тысяча долараў?

Кажэка адказала, што субсідыі становяцца добрым стартавым капіталам для студэнтаў. Алейнікаў пагадзіўся, што для моладзі гэта сапраўды можа быць дарэчы.

**– За субсідыю 12 год таму я набыла свой першы інвентар для прыборкі, – падтрымала Ганна Сафонава. – І дагэтуль прадпрымальнік.**

– Калі б я распараджаўся грашыма, то не вельмі рабіў бы ўпор на беспрацоўных. Як бізнесмен магу сказаць, што мы працуем кепска, мы не стараемся. Многія не ператэлефаноўваюць, выконваюць задачы не своечасова. І чым меншы населены пункт, тым большая з гэтым бяда. Да працы неабходна ставіцца з патрабаваннем да самога сябе. Дзякуючы тэхналогіям можна многія задачы перакідваць на праграмы, ладзіць аптымізацыі. Некаторыя кіраўнікі абмяркоўваюць, як знайсці матывацыю. У маім агенцтве працуе адзін прадавец, і працуе добра, таму што ў яго вялізная зарплата.

### «Беларусы не ўмеюць працаваць»

Размову пра тое, што беларусы не ўмеюць добра працаваць, падтрымаў прадпрымальнік **Мікалай Паноў**:

– Бальшавізм сваёй ураўнілаўкай забіў паняцце «работа». Быў перыяд, калі я паехаў працаваць у Польшчу. Першыя дні не разумеў, як можна столькі працаваць! Падавалася, што гэта проста немагчыма. Але праз некалькі тыдняў ужо працаваў гэтак жа, як і мясцовыя. І нічога, цэлы дзень сапраўды працуеш на ўсю моц, а вечарам нават у бар сілы ёсць схадзіць.

**Таму калі размаўляю з беларусамі, то кажу ім: вы ў жыцці ні разу не працавалі, вы ўяўлення не маеце, што такое праца.**

– Праблема яшчэ ў тым, што ў нас няма рынку працы. Я не ведаю, хто гэта ў нас прыдумаў, што неабходна знішчыць беспрацоўе. У любым падручніку эканомікі вы прачытаеце, што нармальны ўзровень беспрацоўя – 5%. Чаму ў Беларусі ўзялося меркаванне, што чым гэты працэнт ніжэйшы, тым лепш? Калі ў Маладзечне было менш за адзін працэнт, пачалі ўзрушацца, самы нізкі паказчык у краіне. А з чаго ўзрушацца? 5% беспрацоўя – той узровень, калі кадры канкуруюць між сабой, але сацыяльнай напружанасці яшчэ няма. Знішчаць беспрацоўе – значыць,

# мае сэнсу»

## цягам года запрацуе тэхнапарк

знішчаць канкурэнцыю спецыялістаў.

Удзельнікі звярнулі ўвагу, што некаторыя прадпрымальнікі не надаюць дастаткова ўвагі рэкламе, уласнаму сайту і старонкам у сацыяльных сетках. Пры тым, што найбольш правільна распаўсюджваць рэкламу праз усе магчымыя каналы, і тады яна працуе максімальна эфектыўна. Таму для многіх бізнесменаў могуць спатрэбіцца адукацыйныя заняткі па продажах у інстаграме, таргетынгу, стварэнні сайта.

Прадпрымальнікі заўважылі, што часам няпроста знайсці патрэбную інфармацыю ад райвыканкама. Прапанавалі падаваць яе больш нязмушана, напрыклад, праз сацыяльныя сеткі. Такія крокі з боку райвыканкама зменшаць дыстанцыю паміж уладай і бізнесам, што пойдзе толькі на карысць абодвум бакам. Паноў патлумачыў, чаму гэта важна:

**– Калі фермер хоча атрымаць ад сваёй каровы малако, ён клапоціцца пра яе, корміць і даглядае. Так і ўлада павінна дапамагаць бізнесу. Вы ж нічога не вырабляеце, а існуеце за нашы падаткі.**

Каб падаткаў было больш, павінны развівацца бізнес. Таму ўлада мусіць клапаціцца пра прадпрымальнікаў, як фермер пра карову.

Такім клопатам з боку выканкама могуць быць кансультацыі. Каб спецыяліст падказваў бізнесменам, што варта ўлічыць і якім чынам развівацца.

### Як будзе працаваць тэхнапарк

Яўген Мальчэўскі распавёў пра тое, як працуе кампанія «Інката» ў Мінску і як яны плануюць наладзіць працу ў Маладзечне.

**Арганізацыя займаецца інжынернымі і кансультацыйнымі работамі. Іх задача – прывесці стартап да рынку, дапамагчы зрабіць тэхналогію гатовай да продажу.**

Калі ў свеце выжывае да 10% тэхналагічных стартапаў, а ў Беларусі 1%, «Інката» мае да 20%, паведаміў прадстаўнік кампаніі.

**Кліент звяртаецца да арганізацыі з ідэяй, яму дапамагаюць яе ўвасобіць і прайсці ўвесь шлях ад распрацоўкі да выхаду на рынак.**

Сярод прыкладаў праектаў «Інкаты» – аўтаномны беспілотнік, разумны корак для бутэлек, які далівае дакладную дозу і вядзе ўлік.

Цягам года ў Маладзечне ўзвядуць пляцоўку тэхнапарку. Мяркуюць, што гэта будзе памяшканне, якое хутка будуецца, па адмысловай тэхналогіі агульнай плошчай у 1200 квадратных метраў на тэрыторыі каля водаканала. Прадпрымальнікі змогуць стаць яго рэзідэнтамі і атрымаць шэраг выгод. Рэзідэнты могуць атрымаць падатковыя льготы. Неабходнае абсталяванне можна будзе не набываць самому. Напрыклад, станок набудзе тэхнапарк, а прадпрымальнік будзе яго арандаваць, каб выканаць неабходныя задачы.

**Рэзідэнты могуць атрымаць фінансавую падтрымку ў выглядзе гранта або пазыкі. Фонд для гэтых мэтаў пазабюджэтны, таму і рашэнні па вылучэнні з яго сродкаў будуць прымаць аператыўна.**

Арганізацыя будзе таксама забяспечваць усе патрэбныя для рэзідэнтаў кансультацыйныя паслугі, у тым ліку маркетынгавыя.

Тэхнапарк плануе працаваць як інкубатар. Рэзідэнцтва не мае абмежавання ў тэрміне. Але калі прадпрымальніку дапамогуць рэалізаваць ідэю, яго выпускаюць, каб адбывалася ратацыя ідэй і тэхналогій. Тэрмін рэалізацыі праектаў можа быць розны, некаторым трэба некалькі год, каб дайсці да продажу гатовага прадукту.

### Як стаць рэзідэнтам тэхнапарка

Усяго ў межах праекта плануюць прыняць 6-7 рэзідэнтаў у маладзечанскі тэхнапарк. Каб далучыцца да ініцыятывы, неабходна падаць заяўку ў выглядзе плана развіцця бізнесу або бізнес-плана. У праекце абавязкова павінна быць інавацыйнасць. Не абавязкова сусветнага або беларускага маштабу, гэта можа быць рэгіянальная навізна.

Звяртацца з заяўкамі могуць прадстаўнікі самых розных сфер – высокіх тэхналогій, машынабудавання, дрэваапрацоўкі.

**Важна, каб у выніку дзейнасці на маладзечанскі рынак прыйшла новая для горада тэхналогія або паслуга. Пра прыём заявак «РГ» паведаміць дадаткова.**

Заяўкі будзе разглядаць рада тэхнапарка. З рэзідэнтамі заключаць дамову, абавязковым пунктам якой стане арэнда часткі пляцоўкі тэхнапарка.

### Як развіць прадпрымальніцтва

Пра тое, як актывізаваць прадпрымальніцтва ў Маладзечне, абмяркавалі ў апошняй частцы сустрэчы. Прадстаўнікі «Адкрытай прасторы» адзначылі, што яны ладзілі два сезоны «Стартап-школы», у межах якіх правялі шэраг навучальных мерапрыемстваў для прадпрымальнікаў.

**Жаночыя бізнес-сняданкі, інтэнсівы, лекцыі – арганізатары абіралі найбольш запатрабаваныя тэмы і фарматы.**

Прыйшлі да высновы, што існуе пэўнае кола зацікаўленых асоб, якія гатовыя адгукацца на адукацыйныя прапановы.

Удзельнікі паразважалі пра тое, якія мерапрыемствы маглі б быць карыснымі маладзечанскім прадпрымальнікам, як згуртаваць прадпрымальніцкую супольнасць увогуле.

**Некаторым важна атрымаць адказы на тое, як пачаць сваю справу, іншыя ж дасягнулі столі для сваіх рэсурсаў, і ім важна дапамагчы перайсці на наступны ўзровень.**

Дырэктар тэхнапарка заўважыў, што праблема можа быць не толькі ў тым, што работнікі не жадаюць працаваць:

– Я ведаю, што ёсць шмат таленавітых спецыялістаў. У мяне працуе некалькі канструктараў з рэгіёна, у тым ліку з Маладзечна. Яны проста не змаглі знайсці сябе ў сваім горадзе.

**Часам, каб атрымаць добры эфект ад працы, трэба стварыць для гэтага ўмовы.**

Сяргей Алейнікаў падсумаваў, што Маладзечна мае патэнцыял для прыцягнення турыстаў. Задуму са стварэннем вуліцы стрыт-фуда ён спачатку не ўспрымаў усур'ёз. А пасля на свае вочы ўбачыў, як розныя людзі прыязджалі з Мінска, каб пабываць на ёй.

**І прапанаваў, каб райвыканкам вітаў ініцыятыву гараджан, якія выходзяць на вуліцу і прапануюць свае паслугі – хто прадае тавар, хто збірае грошы музыкай, хто забаўляе незвычайным уборам для фотасесіі.**

Такі падыход будзе прываблiваць наведвацца i гуляць па Маладзечне, карыстацца прапановамі прадаўцоў, прыцягне грошы, у тым ліку з іншых гарадоў і нават краін. Рух у горадзе запусціць рух у эканоміцы. І Маладзечна дакажа, што недарма яго называюць Горадам Сонца.

Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.01 | 23.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1248 | **2.1156** |
| Еўра | 2.3649 | **2.3450** |
| Злоты, 10 | 5.5917 | **5.5384** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4582 | **3.4188** |
| Грыўня, 100 | 8.8506 | **8.6856** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **15.01** | **22.01** |
| Еўра | 2.3300/2.3800 | **2.3000/2.3800** |
| Долар ЗША | 2.0950/2.1400 | **2.0950/2.1500** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **15.01** | **22.01** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **5,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,40** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,55 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,60 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **4,30** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Чарнаслíў б/к, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **1,85** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У дзвюх аварыях збілі пешаходаў

МАЛАДЗЕЧНА

Аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС шукае сведкаў і відавочцаў здарэнняў.

Каля 22 гадзін 23 снежня 25-гадовы кіроўца «Сузукі» рушыў па Вялікім Гасцінцы ў бок Смаргоні. Каля дома №96 наехаў на 16-гадовага пешахода, які ішоў па рэгуляваным пешаходным пераходзе. Меркавана, на забараняльны сігнал святлафора. У выніку аварыі пешаход атрымаў пашкоджанні.

Каля 7:30 8 студзеня 28-гадовы кіроўца аўтобуса МАЗ ехаў па вуліцы Будаўнікоў з боку вуліцы Скарыны. Каля дома №11 люстэркам задняга віду зачапіў 21-гадовага пешахода. Той стаяў на прыпыначным пункце маршрутак.

Пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ад халоднага водазабеспячэння адключылі чатыры прадпрыемствы

СМАРГОНЬ

У суботу, 18 студзеня, у Смаргоні адбыўся прарыў трубаправода халоднага водазабеспячэння.

Пра гэта паведамілі ў Гродзенскім абласным упраўленні МНС.

Інфармацыя аб надзвычайным здарэнні на Індустрыяльным праспекце паступіла дзяжурнаму МНС 18 студзеня ў 19:41. Выратавальнікі выявілі парыў двух трубаправодаў халоднага водазабеспячэння дыяметрам 100 мм і аднаго 400 мм.

Ад халоднага водазабеспячэння адключаныя чатыры прадпрыемствы.

Для ліквідацыі аварыі была задзейнічаная аварыйная брыгада КУП «ЖКГ Смаргонскага раёна».

**Паводле grodnonews.by.**



На месцы здарэння.

Фота ostrovets.by.

# У мужчыны згарэў дом, які яму далі на зіму знаёмыя

## А ўлетку згарэла яго ўласнае жыллё

АСТРАВЕЦ

**Жыхар Бярозаўкі Варнянскага сельсавета з-за звычкі курыць у нецвярозым стане сёння ноччу пазбавіўся дома.**

Пра пажар у 0:50 паведаміла суседка пацярпелага. Жанчына глядзела тэлевізар, калі даведалася ад сына, што на вуліцы нейкае свята.

Яна выйшла, убачыла, што суседскі дом палае на ўсю моц, і выклікала выратавальнікаў. Спрабаваць тушыць агонь самастойна не мела сэнсу.

У доме жыў мужчына, у якога ў ліпені мінулага года згарэла ўласнае жыллё, а гэта яму далі на зіму знаёмыя. Ноччу мужчыну прыйшлося пашукаць, былі нават версіі, што ён мог загінуць у агні. Аднак знайшлі пагарэльца каля трох гадзін ночы ў хляве старой хаты – той спакойна спаў.

Па словах пацярпелага, напярэдадні днём ён разам з таварышам распіваў спіртныя напоі і курыў. Увечары сябар пайшоў дадому, а гасцінны гаспадар пайшоў шукаць сабе новую кампанію, паколькі алкаголь яшчэ заставаўся. Але таварышаў больш не знайшлося. Тады ён пайшоў да свайго старога дома, дзе ў хляве і заснуў.

А тым часам, мабыць, у новым доме тлелі кінутыя недакуркі, ад якіх ён і загарэўся. Менавіта версію неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні ў стане алкагольнага ап'янення і разглядаюць работнікі МНС у якасці прычыны гэтага пажару, як і летась.

Агонь знішчыў дом цалкам.

**Паводле ostrovets.by.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць мужчыну, які мог быць датычны да крадзяжу

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС шукаюць невядомага мужчыну, які 8 студзеня ноччу быў у будынку чыгуначнай станцыі Алёхнавічы і мог быць датычны да крадзяжу мабільнага тэлефона і грошай.

У аператыўна-дзяжурную частку міліцыі звярнуўся 31-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна.

– Мужчына паведаміў, што ў ноч з 7 на 8 студзеня пры невядомых абставінах у яго знік мабільнік Huawei коштам чатырыста рублёў. А яшчэ, па словах заяўніка, пад чахлом ён захоўваў трыста долараў ЗША і 150 беларускіх рублёў, – расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

У ходзе вывучэння запісаў з камер відэаназірання аператыўнікі ўстанавілі, што смартфон выпаў з кішэні заяўніка на падлогу ў будынку чыгуначнай станцыі Алёхнавічы. Пасля чаго невядомы падабраў мабільны тэлефон, выйшаў на вуліцу і на бліжэйшай электрычцы з'ехаў у накірунку Мінска.

Маладзечанскі РАУС просіць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра мужчыну на фота, паведаміць па тэлефонах: **(8-029) 118-55-64, (8-029) 769-43-68**, у дзяжурную службу РАУС **(8-0176) 77-16-56** або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па нумары **102**. Ананімнасць і канфідэнцыяльнасць гарантуюць.

**Аддзел інфармацыі.**



## Следчы камітэт шукае жанчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае жанчыну з фота.

31 снежня 2019 года яна была ў гандлёвай зале крамы «Молгасгандаль». Магазін размешчаны па адрасе: вуліца Валынца, д. 12-к.

Калі вы штосьці ведаеце пра жанчыну на фота, калі ласка, звярніцеся ў Следчы камітэт па адрасе: **Прытыцкага, 23, кабінет 208** або пазваніце на нумар **(8-0176) 58-07-73.**

**Аддзел інфармацыі.**



## Аўтамабілі з перабітымі VIN-нумарамі заўважылі на мяжы

АШМЯНЫ

У канцы мінулага тыдня беларускія памежнікі прадухілілі адразу дзве спробы перамяшчэння з Літвы аўтамабіляў з прыкметамі змены VIN-нумароў.

Першае аўто трапіла ў поле зроку праваахоўнікаў 17 студзеня ў пункце пропуску «Катлоўка». Падчас агляду «Кіа» 2012 года выпуску, якім кіраваў грамадзянін Расіі, пагранічны нарад устанавіў, што звесткі ў тэхпашпарце адрозніваюцца ад паказаных на кузаве.

Падобная сітуацыя адбылася 19 студзеня ў пункце пропуску «Каменны лог» з грамадзянінам Беларусі. Аглядаючы яго «Мерсэдэс» 2000 года, памежнікі таксама выявілі прыкметы падробкі VIN-нумароў.

Абодва кіроўцы сцвярджаюць, што нічога не ведалі пра фальшывыя нумары. Транспартныя сродкі перададзеныя супрацоўнікам міліцыі для далейшага разбору.

**Паводле osh.by.**

## У вёсцы Пажарышча гарэў дом

МАЛАДЗЕЧНА

18 студзеня выратавальнікі выязджалі на тушэнне пажару ў жылым доме ў Пажарышчы Гарадоцкага сельсавета.

Выклік паступіў выратавальнікам каля 21:00. Прычыну высвятляюць. Мяркуюць, што дом загарэўся ад расколіны ў коміне.

– У выніку пажару дом знішчаны цалкам. Пажарнага апавяшчальніка ў ім не было, – расказала інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## З-за раварыста здарылася ДТЗ

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 14 студзеня каля васьмі гадзін раніцы побач з паваротам на Ілью на аўтадарозе Мінск-Нарач.

Па словах старшага інспектара Маладзечанскай ДАІ **Сяргея Бартоша**, 24-гадовы маладзечанец на «Опелі-Вектра» ехаў з Маладзечна ў накірунку Краснага. Праехаўшы паварот на Ілью, убачыў раварыста. Той пераязджаў дарогу па паласе, на якой ехаў аўтамабіль.

Як расказаў ДАІ кіроўца, ён пачаў тармазіць і рухацца лявей. Аднак на слізкай дарозе машына вылецела ў кювет і стукнулася ў дарожны знак. Кіроўца і два пасажыры, што былі ў машыне, не пацярпелі.

Па словах Сяргея Бартоша, раварыст быў нецвярозы. На яго склалі пратакол за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула стварэнне аварыйнай абстаноўкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Маладзечне пакажуць рамантычную оперу

МАЛАДЗЕЧНА

**Рамантычны твор з музыкай, якую раней ніколі не выконвалі на сцэнах Беларусі, паставяць у Маладзечне.**

Прэм'ера рамантычнай оперы «Сон» адбудзецца ў пятніцу, 6 сакавіка. Пачатак а 19 гадзіне.

Імпрэза адбудзецца ў Мінскім абласным драматычным тэатры.

Твор уяўляе сабой свабодную трактоўку оперы «Дзанэта». Яе напісаў італьянскі кампазітар П'етра Масканы ў 1896 годзе.

Рэжысёрам пастаноўкі выступае італьянскі маэстра **Паола дэ Напалі**. Ролю Дзанэта выканае маладзечанец **Андрэй Мікульчык**, Сільвіі – **Сузанна Ерабкова** з Чэхіі. Музычнае суправаджэнне забяспечыць струнны квінтэт «Амелія».

Опера будзе доўжыцца 45 хвілін. Пасля антракта гледачоў чакае канцэрт з удзелам спевакоў з Італіі, Чэхіі, Балгарыі, Літвы, Расіі і Беларусі.

### Другая опера ў драмтэатры

Падрабязней пра пастаноўку распавёў выканаўца ролі Дзанэта Андрэй Мікульчык.

У 2018 годзе на сцэне драматычнага тэатра ўжо ставілі оперу, і таксама пад кіраўніцтвам італьянскага маэстра Паола дэ Напалі. Адну з галоўных роляў у пастаноўцы «Служанка-гаспадыня» тады таксама выканаў Мікульчык. Твор паставілі чатыры разы за год, у тым ліку двойчы ў Італіі.

Вынікам міжнароднага творчага супрацоўніцтва ўдзельнікі былі вельмі задаволены. Таму вырашылі развіваць працу ў гэтым кірунку. І падрыхтавалі новы праект.

– «Сон» – аднаактавая опера, таму ідэальна падыходзіць для пастановак у невялікіх, камерных тэатрах, – тлумачыць Мікульчык. – Менавіта з такіх опер мы і выбіралі. Хацелі знайсці твор з рамантычным і лірычным характарам, таму што папярэдняя прэм'ера была камічнай операй. Істотна і тое, што гэту оперу, і ў прыватнасці музыку, раней ніколі не выконвалі ў Беларусі.

Падрыхтоўка да прэм'еры працягваецца. Цяпер ідуць рэпетыцыі з квінтэтам. Ёсць складанасці ў падрыхтоўцы – усе творцы жывуць у розных краінах. Рэжысёр у Італіі, выканаўца ролі Сільвіі з Чэхіі, але цяпер жыве і вучыцца ў Італіі.

«Але складанасці лёгка пераадольваць, калі займаешся любімай справай і аддаеш усю энергію», – дзеліцца Мікульчык.




Фота забяспечанае Андрэем МІКУЛЬЧЫКАМ.

Афіша оперы «Сон».

### Пра што будзе опера

Няпроста было абраць дату прэм'еры. Яна павінна была падыходзіць тэатру, а таксама пасаваць усім удзельнікам міжнароднага творчага праекта. Атрымалася падабраць дату для паказу рамантычнага твора якраз перад Міжнародным жаночым днём.

Опера распавядае пра чароўную маладую дзяўчыну-куртызанку Сільвію. Яна стамілася ад таго ладу жыцця, які ў яе склаўся.

Раптам яна знайшла магчымасць знайсці сапраўднае каханне з прыгожым, наіўным і чыстым душой юнаком Дзанэта. Але нават у сне Сільвія яго адштурхоўвае.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Завод парашковай металургіі адмовіўся ад іску да «РГ»

**У кастрычніку мінулага года на сайце «РГ» быў размешчаны здымак, дасланы нашым чытачом. На ім аўтар зафіксаваў прывязанае да вяровачак мыла ў адной з прыбіральняў прадпрыемства.**



Ілюстрацыйнае фота versiya.info.

Загаловак да публікацыі быў «Каб не скралі. У прыбіральні на маладзечанскім заводзе мыла прывязалі на вяроўку».

Завод палічыў, што публікацыя наносіць шкоду дзелавой рэпутацыі прадпрыемства, і падаў іск да выдання ў Эканамічны суд Мінскай вобласці.

У іску ісцец патрабаваў ад адказчыка абвергнуць апублікаваную інфармацыю, абавязаць рэдакцыю падаць інфармацыю аб асобе, якая дала звесткі выданню, для прыцягнення яе да адказнасці, спагнаць з адказчыка дзяржпошліну.

Першае, папярэдняе, судовае пасяджэнне адбылося ў канцы мінулага года. Другое прайшло 16 студзеня.

У сераду бакі дасягнулі міравога пагаднення, дзе ісцец адмовіўся ад сваіх патрабаванняў у поўным аб'ёме. Завод таксама абавязваецца вярнуць выданню палавіну выдаткаў на аплату паслуг адваката.

**Аддзел інфармацыі.**

## Этнаграфічны клуб ладзіць дзень нараджэння

МАЛАДЗЕЧНА

Этнаграфічны клуб «Кола» адзначае чатырохгоддзе.

Святкаванне ладзяць у суботу, 1 лютага, у цэнтралізаванай клубнай сістэме па адрасе: Лібава-Роменская, 71. Пачатак у 17:30.

Уваход вольны. Але пры сабе неабходна мець зменны абутак.

За чатыры гады клуб зладзіў шэраг танцавальных вечарын, майстар-класы, ночы танцаў і іншыя мерапрыемствы з этнаграфічным гучаннем. Сёлета калаўцы зрабілі экспедыцыю па Маладзечанскім раёне, каб сабраць фальклорны матэрыял.

На свяце калаўцы распавядуць пра лепшыя моманты клуба за мінулы год. Удзельнікаў чакаюць танцы. У госці завітае полацкі фальклорны гурт «Варган».

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейскі ансамбль мажарэтак «Фіеста» атрымаў званне ўзорнага

Ансамбль мажарэтак «Фіеста» з Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў у канцы мінулага года атрымаў званне ўзорнага.

Гэта званне калектыву прысвоілі за значны ўклад у развіццё самадзейнай мастацкай творчасці, папулярызацыю культурных традыцый, адпаведны мастацкі ўзровень і творчыя паказчыкі, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Кіруе мажарэткамі педагог **Ірына Сідарэвіч**.

## Міліцыянеры з Вілейкі, Маладзечна, Мядзела і Валожына – найлепшыя на Міншчыне

Днямі ў Мінску правялі афіцэрскі сход, на якім узнагароджвалі супрацоўнікаў і кіраўнікоў падраздзяленняў міліцыі Міншчыны, якія дасягнулі высокіх вынікаў у аператыўна-службовай дзейнасці. Сярод узнагароджаных – падраздзяленні міліцыі з Маладзечна, Вілейкі, Валожына.

Присутных павіншаваў начальнік УУС Мінаблвыканкама генерал-маёр міліцыі **Аляксандр Кавальчук**. Кіраўнік падзякаваў за годную службу і пажадаў новых дасягненняў у службовай дзейнасці.

Найлепшае падраздзяленне аператыўна-дзяжурнай службы – служба аддзела ўнутраных спраў Валожынскага райвыканкама. Старшы дзяжурны – **Уладзімір Шукевіч**.

Найлепшым падраздзяленням па грамадзянстве і міграцыі сталі віляйчане. Начальнік – капітан міліцыі **Таццяна Зіброва**.

А найлепшае падраздзялення ДАІ працуе ў Маладзечне. Начальнік – маёр міліцыі **Ілля Кулеш**.

Найлепшымі па прафесіі сталі:

– **Аляксандр Шаронаў** – найлепшы супрацоўнік аператыўна-дзяжурнай службы, старшы аператыўны дзяжурны аператыўна-дзяжурнай службы Маладзечанскага РАУС, маёр міліцыі;

– **Дзмітры Сарокін** – найлепшы супрацоўнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі, старшы інспектар крымінальна-выканаўчай інспекцыі Мядзельскага РАУС, маёр міліцыі;

– **Віталь Дзяруга** – лепшы супрацоўнік падраздзяленняў інфармацыйнага забеспячэння, старшы інспектар групы інфармацыйнага забеспячэння Вілейскага РАУС, маёр міліцыі.

**УУС Мінаблвыканкама.**

## У Астраўцы – новы намеснік старшыні райвыканкама

Ім стаў **Генадзь Бычко**, паведамляюць у Астравецкім райвыканкаме.

Генадзь Паўлавіч да прызначэння на новае месца працаваў на аналагічнай пасадзе ў Смаргонскім райвыканкаме. Тут ён курыраваў пытанні сацыяльнай сферы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Леанід Дранько-Майсюк напісаў аповесць пра ўраджэнца Смаргоншчыны

СМАРГОНЬ

«…Усе бачылі нястачу віна…» – новы твор пісьменніка **Леаніда Дранько-Майсюка** пра ксяндза **Адама Станкевіча**, пра ягоную самаахвярную працу на карысць Беларусі, пра яго пакуты ў астрозе.

Адам Станкевіч (1892-1949), пісьменнік, палітык, гісторык, святар, нацыянальны дзеяч, які марыў пра такую незалежную беларускую дзяржаву, якая адпавядала б узору заходнееўрапейскай дэмакратыі. У 1949 годзе асуджаны савецкай уладай. Памёр у лагеры ў Іркуцкай вобласці. Там і пахаваны.

Станкевіч звязаны з нашым рэгіёнам. Ён нарадзіўся ў вёсцы Арляняты. Цяпер гэта Смаргонскі раён. Вучыўся ў Ашмянскім вучылішчы.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Старыя савецкія матацыклы і запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 51/29/8,1; на 3 паверсе цаглянага дома. Т. (8-029) 7671747.

• 2-пакаёвая кватэра, 47 кв. м, 5/4, альбо памяняю на Фаніпаль, Мінск. Т. (8-029) 6049348.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасці. Мэбля. Гараж. Т. (8-029) 585482.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 8511465.

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Касманаўтаў, д.11. Т. (8-033) 6384522.*

• Гараж у ГК-13 Маладзечна, вул.Міру. Т. (8-029) 1575292.*

• Гараж у ГК-18 Маладзечна. Т. (8-033) 6384522.*

• Дом 45 кв. м у Вілейцы. Пячное ацяпленне, калодзеж, 13 сотак. Т. (8-033) 6671169.

• Дом у Вілейцы, раён «Зеніт», 55 кв. м Т. (8-029) 7610785.

• Кватэра 1,5, 41 кв. м агульнай плошчы ў пас. Сасновы Бор Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 1501884.*

• Участак 12 сотак у Вілейцы, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-044) 7133606,(8-029) 1825368.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы высокаўдойныя акотныя. Цана дагаворная. Т. (8-044) 7462476.*

**Іншае**

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць». Т. (8-029) 5019550.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Грузчык акажа дапамогу. Т. (8-029) 8761612.*

• Зборка мэблі. Т. (8-029) 8761612.*



**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**




Злева направа: Уладзімір Бурак, Ягор Кулінковіч, Ілля Ганчароў, Уладзімір Раманенка са сваімі мадэлямі.

## Вучні з рэгіёна – у пераможцах выставы-конкурсу «ТэхнаРух»

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Падвялі вынікі абласной выставы-конкурсу стэндавага мадэлявання «ТэхнаРух».**

Сярод пераможцаў ёсць вілейчукі – выхаванцы Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

У асабовым першынстве ў намінацыі «Мадэлі з паперы» першае месца заняў **Ілля Ганчароў**. Хлопец зрабіў пажарную аўтацыстэрну. У пераможцах у гэтай намінацыі і **Уладзімір Бурак** з артылерыйскім катарам.

У намінацыі «Мадэлі з пластыку» ва ўзроставай групе 10-13 гадоў першае і другое месцы адпаведна ў **Ягора Кулінковіча** і **Уладзіміра Раманенкі**. Хлопцы змайстравалі крэйсеры. А мадэлі **Івана Купрэйчыка** – танк і лінкор – узялі бронзу.

У гэтай самай намінацыі, толькі ва ўзроставай групе 14-18 год, першае месца заняў Ілля Ганчароў з ледаколам «Арктыка». І яшчэ адно першае месца – ва Уладзіміра Бурака. Ён зрабіў падводную лодку «Курск».

У камандным першынстве перамаглі хлопцы з Маладзечна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Школьнікі атрымалі стыпендыю ад Беларускага фонду міру

АШМЯНЫ

У мінулую пятніцу на базе Гродзенскага абласнога Палаца дзяцей і моладзі адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння прэмій Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд міру».

На працягу 16 гадоў прэмія штогод уручаецца адораным дзецям-школьнікам і студэнтам, якія дабіліся высокіх поспехаў у спартыўнай, вучэбнай і творчай дзейнасці. У гэтым годзе ў ліку стыпендыятаў аказаліся вучні з Ашмянскага раёна: **Іна Зышчык** – вучаніца 2 класа дзіцячай школы мастацтваў, і **Данііл Цімаховіч** – вучань 10 класа Дакурнішскага вучэбна-педагагічнага комплексу.

Іна Зышчык неаднаразова станавілася лаўрэатам міжнароднага фестывалю мастацтваў ByFest. Нягледзячы на юны ўзрост, яна дасягае высокіх вынікаў у вучэбнай, творчай, спартыўнай дзейнасці, а ў 2018 годзе стала ўладальніцай дыплома І ступені адкрытага фестывалю-конкурсу для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Вясёлы Жужа».

Данііл Цімаховіч з'яўляецца пераможцам раённага этапу конкурсу праектаў «Прыязджайце ў Беларусь» і «Знаходка года». У 2018 годзе заняў трэцяе месца ў другім этапе рэспубліканскай алімпіяды па геаграфіі, у 2019 годзе – уже другое месца. Таксама Данііл неаднаразова прымаў удзел у раённай навукова-практычнай канферэнцыі «Першы крок у навуку» з працамі «Станцыя Ашмяны: учора, сёння, заўтра», «Пазнаём Ашмяншчыну разам. Геалагічныя помнікі прыроды».

**Паводле osh.by.**

## Пачынаюць сумесны праект з Нідэрландамі

ВАЛОЖЫН

21 студзеня ў Валожыне прэзентавалі праект «Вучымся кіраваць сваёй будучыняй».

Праект накіраваны на дапамогу людзям з інваліднасцю. Яго рэалізуе грамадская арганізацыя «Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам» сумесна з Каралеўствам Нідэрландаў.

**Аддзел інфармацыі.**




Так праходзіў Дзень абдымкаў у смаргонскім садку №13.

# Не толькі абдымаліся, але і пасмяяліся ад душы

## У смаргонскім садку правялі Дзень абдымкаў

СМАРГОНЬ

**21 студзеня ва ўсім свеце адзначаюць адно з самых незвычайных і вясёлых святаў у годзе – Дзень абдымкаў. Падчас шчырых сяброўскіх абдымкаў людзі абменьваюцца душэўнай цеплынёй і пазітыўнай энергіяй.**

Навукоўцы кажуць, што абдымкі патрэбныя людзям усіх узростаў. А дзецям тактыльны кантакт неабходны асабліва.

Шмат душэўнай цеплыні атрымалі выхаванцы ясляў-сада №13 Смаргоні.

Хлопчыкам і дзяўчынкам удалося не толькі абняцца, але і ад душы пасмяяцца. Раніца пачалася з абдымкаў мам і тат у раздзявалках групы. Затым дзеці распавялі адзін аднаму пра тое, што такое абдымацца і з чаго пачынаецца сяброўства. Таксама праз гульню дашкольнікі даведаліся, што жывёлы таксама ўмеюць і любяць абдымацца. Толькі абдымаюцца яны лапамі, шыямі, хвастамі.

**Выхаванцы на зарадцы выканалі размінку пад вясёлую дзіцячую песеньку «Што такое дабрыня?», пагулялі ў гульню «Перадай сэрцайка дабра» з пажаданнямі.**

На занятках па фізічнай культуры зладзілі спаборніцтва «Чыя пара ў адным джэмперы хутчэй дабяжыць», «Пранесці мяч удваіх, не прытрымліваючы рукамі», «Правядзі аднаго з завязанымі вачыма паміж перашкодамі», «Прабяжыце ў пары на адной ножцы».

На музычных занятках праслухалі песню «Разам весела крочыць».

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, намеснік загадчыцы па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**



Тактыльныя зносіны – гэта спосаб зносін і ўзаемадзеяння людзей і жывёл з дапамогай пачуццяў дотыку. Тактыльныя дадзеныя паступаюць ад сэнсарных рэцэптараў, якія знаходзяцца ў скуры, суставах, мышцах, сухажыллях і ва ўнутраным вуху. Тактыльнае пачуццё дае інфармацыю аб знешнім свеце, фарміруе ўяўленні аб становішчы цела ў прасторы. Дотык вельмі важны для людзей і з'яўляецца неабходным для выражэння фізічнай блізкасці. З дапамогай камунікацыі чалавек можа прыцягнуць увагу, выказаць сваё стаўленне да суразмоўцы, наладзіць кантакт.



Фота забяспечана Ільянскім аграрным каледжам.

Спецыялісты з Гродзеншчыны расказваюць пра ўмовы працы на сваім прадпрыемстве.

## Спецыялісты сельскай гаспадаркі наведалі каледж у Ільі

ВІЛЕЙКА

**15 студзеня ў Ільянскі дзяржаўны аграрны каледж прыехалі госці з Гродзеншчыны.**

Прадстаўнікі сельскагаспадарчага прадпрыемства «Лукі-Агра», што ў Карэліцкім раёне, сустрэліся з навучэнцамі заатэхнічнага і ветэрынарнага аддзяленняў і выкладчыкамі ўстановы.

Дырэктар прадпрыемства **Мікалай Гавіна** і намеснік дырэктара па жывёлагадоўлі **Аляксандр Капіца** расказалі пра «Лукі-Агра». Сёння ў гаспадарцы больш за 1200 кароў. Ёсць тры малочнатаварныя фермы. Пабудавалі два новыя цялятнікі для часовага ўтрымання цялят у індывідуальных дамках. Такое ўтрыманне маладняку, па словах спецыялістаў, набліжанае да натуральных умоў.

Таксама будучыя выпускнікі даведаліся пра ўмовы працы на прадпрыемстве, пра заробкі і ўмовы пражывання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У сакавіку паставяць оперу «Сон»

МАЛАДЗЕЧНА

Культурнае мерапрыемства пройдзе 6 сакавіка ў Мінскім абласным драматычным тэатры. Пачатак а 19 гадзіне.

Пакажуць свабодную трактоўку оперы «Дзанэта».

Рэжысёрам выступае італьянскі маэстра Паола дэ Напалі.

У ролі Дзанэта **Андрэй Мікульчык** з Маладзечна. Ролю Сільвіі выканае **Сюзана Ерабкова** з Чэхіі. Выступіць струнны квінтэт «Амелія».

Пасля антракту адбудзецца канцэрт з удзелам спевакоў з Італіі, Чэхіі, Балгарыі, Літвы, Расіі і Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**

## У школах рэгіёна з'явяцца завучы па ваенна-патрыятычным выхаванні

Намеснік дырэктара па ваенна-патрыятычным выхаванні з'явіцца ў бліжэйшы час у школах рэгіёна. Пра гэта сведчаць змены ў Адзіным кваліфікацыйным даведніку пасад службоўцаў, апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале Беларусі.

«У абавязкі такога кіраўніка будуць уваходзіць планаванне, арганізацыя і ажыццяўленне на аснове вучэбна-праграмнай дакументацыі адукацыйнай праграмы і патрабаванняў санітарных нормаў і правілаў, гігіенічных нарматываў; выхаванне вучняў па ваенна-патрыятычным кірунку ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі», – гаворыцца ў паведамленні.

Адзначаецца, што кіраўнік па ваенна-патрыятычным выхаванні будзе забяспечваць «рэалізацыю ідэалогіі для ваеннай бяспекі ў частцы, якая тычыцца грамадзянска-патрыятычнага выхавання дзяцей і моладзі».

Акрамя таго, у яго абавязкі ўваходзіць фарміраванне ў юнакоў і дзяўчат патрыятычнай свядомасці і маральна-псіхалагічных якасцяў, неабходных для абароны Айчыны, а таксама абавязковай падрыхтоўкі грамадзян да ваеннай службы.

У Міністэрстве адукацыі Беларусі агенцтву пацвердзілі інфармацыю аб гэтых зменах. «Сапраўды, такога роду спецыялісты будуць працаваць ва ўстановах адукацыі», – паведамілі ў прэс-службе Мінадукацыі.

Змены ў Адзіны кваліфікацыйны даведнік пасад службоўцаў унесеныя пастановай №57 Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі ад 21 лістапада 2019 года.

**Паводле interfax.by.**

# Ірына Тархан: «Мару зрабіць у двары карцінную галерэю»

## Мы ўзнагародзілі пераможцу ў намінацыі «Выбар чытачоў» акцыі «Асоба года»

МАЛАДЗЕЧНА

**Як згуртаваць суседзяў з пяці дамоў? Разам ладзіць чаяванні і святы для дзяцей і зрабіць уласны двор ці не самым крэатыўным у Маладзечне? Пра гэта ведае сёлетняя пераможца ў намінацыі «Выбар чытачоў» нашай штогадовай акцыі «Асоба года» Ірына Тархан.**




Ірына Тархан (справа) з дачкой Арынай на ўзнагароджанні ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты».

### Ірына: Дзякуй, што распраўляеце нашы крылы

У чытацкім галасаванні, вынікі якога мы падвялі на пачатку студзеня, Ірына набрала найбольшую колькасць галасоў. 16 студзеня яна з дачкой прыйшла ў рэдакцыю на ўзнагароджанне, расказала пра ўдзел у акцыі і ўласны актывізм.

– Пра тое, што я сярод прэтэндэнтаў на «Асобу года», даведалася ад сваёй сяброўкі **Валянціны Сідоркінай**. Канешне, для мяне гэта была вельмі добрая навіна. Прыемна, што журналісты рэдакцыі заўважаюць нашу дзейнасць. Дзякуй, што распраўляеце нашы крылы, – пачала Ірына.

Кажа, што сёлета ў акцыі, на яе думку, было шмат дастойных кандыдатур. Прыемна, што большасць з іх – знаёмыя. Сама Ірына галасавала і за этнаграфічны клуб «Кола», і за вуліцу стрыт-фуда.

За Ірыну галасавала сям'я, сябры, дзеці з Маладзечанскай санаторнай школы-інтэрната, дзе яна працуе выхавальніцай. Дачка Іры, **Арына**, якраз у той час ляжала ў бальніцы. Там усім расказала пра мамін удзел у акцыі. І людзі галасавалі таксама.

### 16 студзеня – дзень народзінаў праекта «Наш двор»

– Для мяне перамога ў акцыі «Асоба года» – гэта перамога над сабой. Я даўно марыла зрабіць нешта такое, каб гэта заўважылі і ацанілі, – дзеліцца пераможца.

16 студзеня, калі мы гутарылі з Ірынай, быў роўна год ад пачатку праекта «Наш двор». Летась у гэты дзень актывістка зладзіла з суседзямі першую прыборку ў двары.

Іра прызнаецца, што калі год таму пачалі ўпарадкаваць двор, самі яшчэ не ўяўлялі, што атрымаецца. Зрабілі дзіцячую пляцоўку, пасля – спартыўную. З'явілася валейбольная пляцоўка і баскетбольнае кальцо. Двор упрыгожылі арт-аб'екты: ровар і паруснік. Гэта сімвалы, якія накіроўваюць нас да новых здзяйсненняў і перамог, кажа Ірына. Першае масавае мерапрыемства ў двары – Дзень снегавіка – зладзілі летась 25 студзеня.

– Тады якраз снег быў, у адрозненне ад сёлетняй зімы. Людзі з дзецьмі прыйшлі па аб'явах. Пабудавалі снежную крэпасць і снегавікоў. А потым было чаяванне для ўсіх, – прыгадвае суразмоўца.

Наступным святам стала Масленіца. І тут народу сабралася яшчэ больш. Арганізатары не думалі нават, што так атрымаецца. Самі былі ў шоку, кажа Ірына.

А нядаўна запрасілі да сябе ў двор этнаграфічны клуб «Кола». Сябры клуба проста на двары паказалі лялечны спектакль да Калядаў. Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, гледачоў сабралася нямала.

Вельмі важная для Ірыны ў справе – падтрымка аднадумцаў. Кажа, што ёсць суседзі **Андрэй** і **Алена Зайцавы**, якія гатовыя падтрымаць і ўвасобіць усе яе задумы. Напрыклад, арт-аб'екты ў двары – гэта творы Андрэя. Цешыць і ўдзячнасць жыхароў двара:

– Калі сталыя жанчыны падыходзяць і кажуць пра тое, як ім спадабалася свята, то мне ўжо больш нічога і не трэба.

### А дзеці разумеюць, што мама можа шмат

Да мерапрыемстваў двара далучаецца ўся сям'я Ірыны. Муж **Валянцін** і дачка Арына фатаграфуюць святы і прыборкі. А сын-першакласнік, **Міша**, – непасрэдны ўдзельнік усіх святаў. Тое, што я раблю, раблю, перш за ўсё, для сваіх дзяцей. І дзеці разумеюць, што мама можа шмат:

– Неяк гулялі з сынам на тэрыторыі адной гімназіі. Яму там спадабаліся трэнажоры. «Трэба і ў наш двор такія», – даў Міша заданне маме.

А яшчэ ў Ірыны ёсць мара – на дзвярах ад смеццеправодаў, што побач з кожным пад'ездам, зрабіць карцінную галерэю. Ужо ёсць мастак, які можа і згодны гэта зрабіць. І калі пагодзяцца мясцовыя ўлады – усё атрымаецца.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Аблівалі асвечанай вадой труну нябожчыка і купаліся ў палонцы да ўсходу

**Вадохрышча – зімовае свята народнага календара, дзень завяршэння Калядаў. Яно праходзіць 19 студзеня. Распавядаем, якія былі раней традыцыі і дзе сёлета акуналіся ў рэгіёне.**



Хрысціянская рэлігія звязвае Вадохрышча з хрышчэннем Ісуса Хрыста Іаанам Хрысцііцелем на рацэ Ярдані са з'яўленнем усіх асобаў Святой Тройцы. На Вадохрышча ў храмах адбываецца асвячэнне вады, якую некалі бралі з бліжэйшай рэчкі. У гэты дзень усе вадасвятныя месцы называліся «Ярданямі».

## Што рабілі з асвечанай вадой

Пры асвячэнні вады на Усходнім Палессі ставілі кругом маладыя ялінкі, каб закрыць святую ваду ад усялякай нечысці, а іх галінкі потым падкладвалі пад кватух, каб было болей куранят, ці ўторквалі ў страху, каб туды не ўдарыў пярун.

Ліхіх духаў на «Ярдані» адпуджвалі таксама стральбой з ружжаў. З дахрысціянскіх часоў верылі ў цудадзейную моц асвечанай вады, захоўваючы ў доме, як і асвечаныя купальскія зёлкі:

– давалі выпіць хвораму;
– апырсквалі свойскую жывёлу адразу пасля ацёлу і перад першым выпасам;
– садовыя дрэвы, калі яны не давалі пладоў;
– поле перад сяўбой дзеля ўрадлівасці і каб вывесці асот;
– новую хату перад засяленнем і гаспадарчыя пабудовы;
– труну перад тым, як пакласці ў яе нябожчыка, і выкапаны дол на могілках.

## Як ачышчаліся ад грахоў і чаму пераварочвалі вазкі з санямі

Найбольш цудадзейнай лічылася вада, узятая з трох, а яшчэ лепей з сямі «Ярданяў», дзеля чаго пасылалі людзей у розныя месцы. Казалі, хто першы зачэрпне святой вады і вернецца дамоў, той першы збярэ з поля сваю збажыну.





Фота Насассі УТКІНАЙ.

19 студзеня людзі з сем'ямі і сябрамі прыязджалі ў Насілава, каб акунуцца на Вадохрышча ў цудадзейнай вадзе вадаёма.

Калі ваду разбіралі, то неслі яе дадому, а потым паілі з палонкі коней.

Некаторыя купаліся ў палонцы да ўсходу сонца, каб цела было бялейшае і каб ачысціцца ад грахоў. Пры адсутнасці ракі ці возера бралі ваду з калодзежаў, апускалі туды крыжык, зроблены з лучыны, які потым вешалі на варотах ад ведзьмаў.

Пяклі крыжыкі з цеста і елі іх. Напярэдадні Вадохрышча сяляне пераварочвалі вазкі і сані, бо ў гэты час нібыта павінны прыходзіць вадзянікі. Рабілі гэта для таго, каб увесь наступны дзень, пакуль асвечаную ваду не знясе плынь, вывезці сваіх дзяцей, якія могуць загінуць ад апускання крыжа ў ваду. Ад асвечанай вады ўцякае і чорт, перасяляючыся на вярбу аж да яе асвячэння на Вербніцу.

## Варажба і рытуалы

На Вадохрышча выконвалі розныя магічныя дзеянні і варажылі на гаспадарчыя справы. Людзі часалі лён, каб такімі ж гладкімі былі цяляты. Лавілі шапкамі і фартухамі падкінутую жменю гароху і па злоўленых гарошынах разлічвалі на колькасць ягнятаў, што народзяцца сёлета.

А па дыме ад запаленай лучыны меркавалі, адкуль на вясну трэба чакаць прылёту пчаліных раёў і ў які бок разварочваць вуллі. Раскідвалі перад вадзяной куццёй па чатырох баках хаты жытнёвыя зярняты на багаты ўраджай. Варажылі на суджанага, лічылі калы ў плоце. З куццёй у роце беглі на вуліцу і пыталіся ў першага стрэчнага імя.

Існавала шмат прадказанняў будучага надвор'я і ўраджаю. Калі на Вадохрышча сцюдзёна – у жніво будзе вельмі горача. Хрышчэнскі снег абяцаў урадлівы год, грыбное лета, але чакалася чарвівая капуста. Калі на Вадохрышча было цёпла, спадзяваліся, што густа ўзыдзе збажына.

Воблачнае Вадохрышча прадказвала добры год, а калі на небе чыста, то і ў засеках будзе чыста. Малады снег, што выпаў у хрышчэнскую раніцу, лічыўся добрым сродкам адбельвання палатна і лямцавання сукна. Вадохрышча звычайна супадала з самымі халоднымі днямі зімы, пасля якіх год паварочваўся на лета: «Трэшчы – не трэшчы, прайшлі Вадахрэшчы. Не к Раству, а к Пятру!».

## Дзе акуналіся людзі на Вадохрышча у рэгіёне

На Маладзечаншыне людзі акуналіся ў двух вадаёмах – у Насілаве і Верадове. У Насілаве дзяжурылі супрацоўнікі МНС, а ў Верадове арганізавалі месца прадстаўнікі Маладзечанскага лясгаса. У Ашмянах, Астраўцы, Смаргоні, Мядзеле, Валожыне і Вілейцы арганізавалі акунанне ў гарадах і іншых населеных пунктах.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА паводле партала «Жыве Беларусь».**

# Грэцкі згуляў на Матчы зорак КХЛ. Раней ён выступаў за «Дынама-Маладзечна»

**18 студзеня ў Маскве прайшоў Матч зорак КХЛ. Мінскае «Дынама» у ім прадставіў хакеіст родам з Гродна – Вячаслаў Грэцкі. Апошнія гады Грэцкі быў у складзе маладзечанскіх дынамаўцаў, але летам 2019-га перайшоў у сталічны клуб.**

### Як ён трапіў на Матч зорак

Грэцкі трапіў на галоўнае шоу Кантынентальнай хакейнай лігі (КХЛ) з дапамогай балельшчыкаў і маркетолагаў клуба. Задумка простая: наўрад ці кагосьці з дынамаўцаў змаглі ўзяць на зорны ўік-энд па заслугах. А хлопец пад нумарам 99 і з прозвішчам, якое падобнае да знакамітага Уэйна Грэцкі, зусім іншая гісторыя.

«Дынама» актыўна піярыла Грэцкага. «Зубры» паведамілі, што Вячаслаў нарадзіўся ў тым жа раёне, што і дзед Уэйна Грэцкі, які эмігрыраваў у Канаду з Гродзеншчыны. На лідарства Вячаслава ў галасаванні заўзятараў звярнула ўвагу нават найбуйнейшае ў Канадзе англамоўнае спартыўнае СМІ. Грэцкі перамог у балельшчыцкім галасаванні з адрывам на паўтары тысячы галасоў ад сваіх канкурэнтаў.

### Гуляе мала з-за пашкоджання

Вячаслаў Грэцкі ў гэтым сезоне быў не прыкметны сваёй гульнёй. У «Дынама» ён атрымліваў менш за дзевяць хвілін за пайдынак, а правёў усяго 12 матчаў. Першае ачко ў КХЛ набраў ужо праз пару тыдняў пасля завяршэння галасавання – зрабіў асіст у матчы з «Амурам».

Апошні матч форвард правёў 25 снежня. Дамашнія матчы хакеіст глядзеў з-за загараджальнага шкла. Вячаслава нават не адправілі ў фарм. Галоўны трэнер «Дынама» **Крэйг Вудкрафт** распавёў, што ў Грэцкага пашкоджанне, якое перашкаджае яму гуляць і трэніравацца.

– Але ён вельмі блізкі да вяртання. Вячаслаў працуе добра, выкладваецца на сто адсоткаў, таму ў бліжэйшы час мы ўбачым яго ў складзе. Магчыма, ён нават згуляе ў наступных матчах. Адзіная прычына яго адсутнасці – невялікае пашкоджанне.

### Быў у вышыванцы, карміў варатара дранікамі

На Матчы зорак Вячаслаў Грэцкі падкрэсліваў сваю беларускасць. У распранальню, дзе рабілі здымкі журналісты, хакеіст зайшоў у вышыванцы. А на майстар-шоу Грэцкі выйшаў прабіваць буліт у саламяным капелюшы з вышыванкай. Вячаслаў таксама павёз варатару **Юліусу Гудачэку** талерку дранікаў. На арэне ў гэты час якраз завялі хіт «Песняроў» аб Ясю і канюшыне. Аднак пасля высветлілася, што дранікі былі несапраўдныя.

– Беларусі хочацца папрасіць прабачэння, таму што гэта быў жах. Гэта былі бульбяныя сырнікі. Вельмі няёмка. Зараз прыйдзецца карміць Гудачэка нармальнымі па прыездзе, – распавядаў Грэцкі.

Гудачэку Грэцкі буліт не забіў, але перамог **Дзмітрыя Яшкіна** ў конкурсе на хуткасць. Вячаслаў працягнуў удзел на Матчы зорак, які складаўся з чатырох міні-гульняў паміж дывізіёнамі. У паўфінале каманда дывізіёна Тарасава, за якую выступаў беларус, выйграла ў зборнай дывізіёна Харламава, а Вячаслаў закінуў сваю першую шайбу ў КХЛ.

**Настасся УТКІНА.**



Фота hcdinamo.by, wallbox.ru.

### Маладзечанскія футбалісты выйшлі з адпачынку

ФК «Маладзечна» 20 студзеня выйшаў з адпачынку. Футбалісты праводзяць першыя трэніроўкі і будуць рыхтавацца да новага сезона.

Нагадаем, што маладзечанцы будуць гуляць у новым сезоне ў першай лізе. Апошні раз футбалісты выступалі ў гэтым дывізіёне ў 2009 годзе.

**Настасся УТКІНА.**

### Мядзяльчук стаў другім на этапе Кубка Беларускай федэрацыі біятлона

Выхаванец СДЮШАР Мядзельскага раёна **Уладзіслаў Шароха** дасягнуў першага поспеху на прадстаўнічых спаборніцтвах па біятлоне.

У нацыянальным цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту «Раўбічы» 7-10 студзеня праходзіў трэці этап Кубка Беларускай федэрацыі біятлона. Уладзіслаў заняў другое месца ў гонцы з масавым стартам сярод юнакоў 2005-2006 гадоў нараджэння. Першым трэнерам хлопца з'яўляецца **Анатоль Пачкоўскі**.

Нагадаем, што ў 2019 годзе Шароха для далейшага спартыўнага ўдасканалення перайшоў вучыцца ў эксперыментальную групу Навапалацкага дзяржаўнага вучылішча алімпійскага рэзерву.

**Паводле narachanka.by.**

### Дынамаўцы прайгралі выязную серыю

Хакеісты **Дзмітрыя Краўчанкі** прайгралі ў трох матчах выязной серыі і ва ўсіх трох гульнях маладзечанскія хакеісты саступалі адну шайбу сапернікам.

14 студзеня ў Салігорску дынамаўцы прайгралі **2:1** «Шахцёру». Праз два дні падапечныя Дзмітрыя Краўчанкі згулялі ў Мінску **4:3** з «Юнацтвам». А 18 студзеня ў Жлобіне саступілі **3:2** па булітах.

**Настасся УТКІНА.**

### «Андэрдог» заявіў, што будзе гуляць у першай лізе, а потым інфармацыю абверглі

17 студзеня футбольная інтэрнэт-суполка «ФБ. Другая ліга» са спасылкай на афіцыйную старонку каманды паведаміла, што «Андэрдог» будзе гуляць у першай лізе.

– З-за няцотнасці каманд у першай лізе (ФК «Дняпро» Магілёў спыніў сваё існаванне і заявіўся ў другую лігу пад новай назвай) і згодна з палажэннем аб правядзенні другой лігі наша каманда падала заяўку на ўдзел у першай лізе і атрымала адабрэнне ад АБФФ, – гаварылася ў паведамленні клуба.

Цяпер запіс з гэтым паведамленнем «Андэрдога» выдалены. Праз некалькі гадзін у той жа дзень дырэктар клуба **Мікалай Мятліцкі** заявіў, што інфармацыя пра выхад каманды ў першую лігу... несапраўдная.

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. У фізіцы – адзінка вымярэння асветленасці.
4. Рухомы мышачны орган у ротавай поласці пазваночных жывёл і чалавека.
6. Працэс паглынання кіслароду і выдзялення вуглекіслаты жывымі арганізмамі.
8. Унутраная частка плода (звычайна арэха), зерня або семя, накрытая шкарлупінай, абалонкай.
12. Абход для агляду, разведкі.
14. Тое, што падлягае захаванню ўпотай, аб чым не гавораць усім.
15. Страва з дробна парэзанага і ўтушанага з гароднінай мяса або ўтушанай гародніны з вострым соусам.
17. Калі цябе кранула нечая рука.
20. Вонкавая абалонка плода, семя.
21. Надаць выгляд дугі.
23. Салёная вада з вострымі прыправамі для засолкі, вымочвання харчовых прадуктаў.
24. Ніл Гілевіч: «Я – не волат. Я бываю кволым. Часам … бліснуць з-пад павек».
26. Існуе выраз «белы …». Так называюць нешта каштоўнае, цана чаго перавышае яго карыснасць. У біржавым жаргоне так называюць здзелку, калі расходы заведама перавышаюць меркаваны прыбытак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Пладовае дрэва сямейства ружакветных з ядомымі сакавітымі акруглымі пладамі.
3. Граматычна і інтанацыйна аформленае спалучэнне слоў або асобнае слова, якое выражае закончаную думку.
5. Кучаравая ці завітая пасма валасоў.
7. Населены пункт Валожынскага раёна, які носіць імя Канстанцыі Буйло.
9. Сталіца В'етнама, у перакладзе – «Горад паміж рэкамі».
10. Загана, недахоп.
11. Гэта расліна дапамагла рабам пад кіраўніцтвам Спартака вырвацца з асады рымскага войска, з яго сплялі лесвіцы.
12. Перавышэнне расходаў над даходамі.
13. Палёгка ў выкананні абавязкаў.
16. У некаторых хрысціян – шнурок з нанізанымі на ім пацеркамі для адлічвання прачытаных малітваў або паклонаў у часе малітвы.
18. Адно рабро.
19. Вынік стараннаў; дасягненне.
20. Звонкі гук, які ўтвараецца ад удару металічнымі прадметамі аб метад або камень.
22. Адзінка вымярэння ціску.
23. Прыстасаванне для кіравання рухам судна, самалёта, аўтамабіля.
25. Спявак, музыкант або танцор, які выконвае сольную партыю.

## Адказы на крыжаванку з №3

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Акела. 5. Жалеза. 7. Абрус. 9. Пармезан. 11. Набег. 12. Прыпяць. 13. Кіпр. 15. Бяспека. 16. Бетон. 20. Прычэп. 21. Дабро. 22. Вядро. 23. Браслаў. 25. Лёгкія. 26. Бавоўна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Намер. 3. Недарэка. 4. Здрада. 6. Гарэлка. 8. Пламбір. 10. Дагавор. 12. Плюс. 14. Пісталет. 16. Багіня. 17. Заціркa. 18. Белаз. 19. Наверх. 24. Далёка. 27. Нота. 28. Алё.



## ГАРАСКОП НА 24-30 СТУДЗЕНЯ



**АВЕН.** Гэтыя дні пройдуць пад знакам асабістых адносінаў. Асаблівых паваротаў у справах не прадбачыцца. Таму зможаце максімум часу аддаць на тое, каб добра правесці час з блізкімі.



**ЦЯЛЕЦ.** Будзьце ўпэўненыя ў сваіх сілах і творчых магчымасцях. Гэта дапаможа дасягнуць поспеху. Магчыма, давядзецца даказваць, чаму вы робіце ўсё менавіта такім чынам, сцвярджаць сваё месца пад сонцам. У асабістых адносінах і сямейным жыцці будуць узнікаць няпростыя сітуацыі, вырашэнне якіх нельга адкладаць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Удача будзе сама ісці ў рукі. Важна абраць прыярытэты і выдаткоўваць на іх максімум энергіі. Дамагайцеся, каб вашы справы працавалі, як дакладны механізм. Пастарайцеся не ўмешвацца ў чужыя праблемы.



**РАК.** Блізкія могуць не ўспрымаць вашы разумныя довады і прымаць не самыя слушныя рашэнні. Пры найгоршым раскладзе можаце вырашыць скасаваць дамоўленасці. У канцы перыяду давядзецца з расчараваннем прыняць тое, што не ўсім важны ваш дабрабыт.



**ЛЕЎ.** Перад вамі расчыняцца дзверы новых магчымасцяў. Успрымайце ўсур'ёз нават самыя нязначныя прапановы, яны могуць мець вялізныя пазітыўныя наступствы. У асабістых адносінах усё будзе развівацца паспяхова.



**ДЗЕВА.** Вашы партнёры могуць здзейсніць учынкі, якія напоўняць сэрца ганарам. Магчымыя складанасці варта вырашаць пры дапамозе не проста блізкіх людзей, а сваякоў. На выхадных не пашкадуйце час на прагулку.



**ШАЛІ.** Да вас будуць пільна прыглядацца, так што імкніцеся паказаць сябе з найлепшага боку. Пры гэтым размежчваць давядзецца толькі на свае сілы. Не адмаўляйце сабе ў рамантычных уражаннях – гэта дасць дадатковую падтрымку.



**СКАРПІЁН.** Зоркі абяцаюць вам хуткае пазітыўнае вырашэнне важных пытанняў. У калектыве магчымыя інтрыгі. У гэтых умовах лепш сфакусіравацца на сваіх справах. Калі ўзнікнуць рознагалоссі з партнёрам, лепш не надаваць ім увагі, гэта хутчэй эмацыйны выбух.



**СТРАЛЕЦ.** Перыяд спрыяльны для вырашэння фінансавых пытанняў. Зоркі раяць вам рашацца на тыя перамены, якія даўно выспявалі. Даўнія знаёмыя могуць шукаць сустрэчы з вамі. Не спяшайцеся раскрывацца, спярша высветліце матывы.



**КАЗЯРОГ.** Усе вашы задумы па паляпшэнні дабрабыту пачынайце ўвасабляць цяпер. Спрыяльны час для дасягнення прафесійных амбіцый. Чакайце толькі добрых навін, у тым ліку рамантычных.



**ВАДАЛЕЙ.** Давядзецца закрываць усе праблемныя сферы. Вашай увагі будуць патрабаваць справы, якія даўно адкладалі. У каханні ўсё будзе складвацца ўдала – смела рабіце тое, што даўно хацелі.



**РЫБЫ.** На ўздыме ваша інтэлектуальная актыўнасць. Не прапусціце магчымасць паказаць сябе і прыняць важныя рашэнні. Магчыма, вам дапаможа даўні сябар – прыміце дапамогу з удзячнасцю. Любоўныя перажыванні пакуль пастаўце на паўзу.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | | 3 | | 9 | |
| | | 1 | 7 | | | 3 | | 8 |
| 2 | | | | | 8 | | 1 | |
| 4 | | | 9 | | 7 | | 2 | |
| 7 | 5 | | | | | 9 | | 3 |
| 9 | 1 | | | 5 | | | | 6 |
| 1 | | 4 | | | | | | |
| | | | | | 2 | | 5 | 7 |
| | 2 | 5 | | | 6 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by






● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА



Не кніжкай адзінай электрычка жыве!

Сёння ў дарозе – шахматы з выпадковым спадарожнікам. Магнітную дошку ён спрытна дастаў з заплечніка, з кішэні – каробачку з фігурамі.

Партыю не скончылі, бо мужычок выйшаў у Радашкавічах. Папрасіў сфоткаць расстаноўку фігур, бо «можа, яшчэ ў электрычцы перасячомся і дайграем».

Пасля, складваючы фігуры ў пластыкавую каробачку, запытаўся, нашто дзірачкі ў накрыўцы пракалупаныя.

– Дызайн, – кажу. – Для прыгажосці.

– Неа, каб коні не задыхнуліся, – усміхаецца.

А вы пытаецеся, як я вытрымліваю гэныя электрычкі. Дык тут жа не людзі, а сонцы трапляюцца!)

## Чытайце праз тыдзень:

- Ураджэнец Смаргоні Міхаіл Жабінскі меў дзіўнае захапленне. Мужчына апранаўся ў шыкоўныя жаночыя строі і фатаграфаваўся ў іх. У наступным нумары пакажам здымкі і раскажам пра Міхаіла.

## 25 студзеня, субота

**Вецер:** заходні, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -26°C у 2010 годзе
Максімальная тэмпература +5°C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,2 мм у 1986 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія тры прадукты вы апошні раз набылі ў краме?



**Наталля Касабуцкая, аператар станкоў, Маладзечна:**
– Бываю ў краме, як дазваляе праца. Пераважна па выхадных. У рабочыя дні толькі тады, калі штосьці тэрмінова спатрэбіцца. У апошні раз купляла мяса, малако, хлеб.



**Уладзімір Герасімовіч, электраманцёр, Вілейка:**
– Хаджу ў краму кожны дзень, а апошні раз купіў хлеб, малако і піва.



**Таццяна Рак, агент па дэклараванні, Маладзечна:**
– Разы два ці тры на тыдзень бываю ў краме. У апошні раз купіла мандарыны, кефір і курыцу.



**Ганна Януковіч, гаспадыня, Будслаў:**
– Апошні раз купіла тварог, малако і масла. А па крамах хаджу некалькі разоў на тыдзень, звычайна два ці тры.



**Алена Дубаневіч, пенсіянерка, Вілейка:**
– У нас такі стабільны набор – хлеб, сыр, масла і малако. У сярэднім разы 3-4 на тыдзень, ды раз на тыдзень хаджу на рынак.



**Алег Петрашэвіч, прадпрымальнік, Вілейка:**
– Хаджу ў краму кожны дзень. Апошні раз купіў піва, гарэлку і селядзец.



**Вадзім Тарасаў, электрагазазваршчык, Маладзечна:**
– Любоў прыходзіць і сыходзіць, а есці хочацца заўсёды. Ды і так паглядзець, куды цэны лезуць. Апошні раз узяў крупы, кефір ды хлеб.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№4 (1291) 24.01.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 121. Падпісана ў друк у 9.00 23.02.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.